Wilno, 25.II.1939. „SZLACH MOŁADZI“ № 4 (146). Rok XI.




№ 4 (146). Вільня, 25 Лютага 1939 г. Год XI.

# ПАТРЭБА ПРОМЫСЛУ Ў НАШЫМ КРАЮ

Асноўнымі элемэнтамі разьвіцьця сельскай гаспадаркі ня толькі ў нашым Краю, але й агулам у сьвеце, зьяўляюцца: капітал,праца і acанамічныяўмовы сельскай гаспадаркі. Ад самага пачатку свайго разьвіцьця нашая сельская гаспадарка мела ў той ці іншай меры толькі два першыя элемэнты: капітал ды працу (пад словам »капітал« трэба тут разумець варштат працы гаспадара—зямлю, — праца-ж— азначае рабочыя рукі). Вось-жа, як расейскі ўрад калісь, а польскі цяпер, нажаль не разьвівалі належна сельскую гаспадарку.

Як прыклад розных адносінаў да земляробства, падамо тут былую царскую Расею і Нямеччыну. Расея да вайны была на 80—90 прац. земляробскай краінай, міма таго земляробскай палітыкі не вяла. Зусім іначай было ў Нямеччыне. Там вясковага насельніцтва было ўсяго каля 43 прац., рэшта гэта рабочыя і іншыя слаі насельніцтва. Умовы для збыту сельскіх прадуктаў былі вельмі добрыя. Але гэтага мала. Урад Нямеччыны накладаў высокае мыта (цло) на ўвожаныя з заграніцы сельскія прадукты, што прычынялася да павышэньня цэнаў сваіх земляробскіх прадуктаў. Такая палітыка падвышала кошты ўтрыманьня рабочых, што ў сваю чаргу адбівалася на дарагоўлі прамысловых тавараў, якія ішлі за граніцу. Аднак урад Нямеччыны ўважаў, што трэба дбаць перадусім аб свой нутраны рынак. Калі селянін багаты і мае што добра збыць, то ён добры купец на прамысловыя вырабы, і наадварот — чым бяднейшы селянін, тым ён менш купляе, а знача— няма збыту на фабрычныя тавары, што ўжо цягне за сабой агульны застой. Таму мы й бачым такое прыгожае разьвіцьцё перад вайной нямецкай сельскай гаспадаркі. На'т цяпер яшчэ польская палітыка можа хваліцца высокім узроўнем сельскай гаспадаркі ў Пазнаншчыне, якая перад вайной знаходзілася пад Нямеччынай. Пасьля вайны сельская гаспадарка ў Пазнаншчыне занепадае, як гэта даказваў прафэсар Пазнанскага Унівэрсытэту Зыгмунд Петрушчынскі. Вось што значаць эканамічныя ўмовы будучыя адным з галоўных дзейнікаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі, які мы паставілі побач зямлі і працы. Як толькі Пазнаншчына ня мае спрыяючых эканамічных абставінаў, наўперад нямецкага рынку, сельская гаспадарка занепадае. Зямля асталася тая самая, і тыя самыя людзі на ёй гаспадараць, а ўжо вынік іншы.

Падобную да нямецкай палітыкі вялі і вядуць амаль усе гаспадарствы, дзе земляробства стаіць высока. Гэтага ня было ў Расеі. Эканамічныя абставіны на гэтульки важныя, што на'т самі сяляне, ня знаючы шырокай эканамічнай палітыкі, гавораць інструктарам і аграномам, якія іх вучаць гаспадарыць: — »дайце нам тут рынак збыту, фабрыку на пару тысяч рабочых,менш трэба будзе гаварыць. Мы-ж і самі знаем, як і што нам аплаціцца садзіць, сеяць і г. д., і г. д.» Дамаганьні зусім правільныя. Але да зьдзейсьненьня іх на жаль ня йдзе, абставіны нашага эканамічнага жыцьця далёка не такія, якія трэба каб былі.

Промыслу на нашых землях так, як і няма. Большыя гарады можна палічыць на пальцах аднэй рукі. Рынак збыту слабы. Гарады і мястэчкі ў нас не разьвіваюцца, а занепадаюць. Даволі напр. сказаць, што ў некаторых паўночных мястэчках Віленшчыны колькасьць насельніцтва, у параўнаньні з перадваеннымі часамі, зьменшылася. Таму мы вось з году на год памаленьку бяднеем. Нічога тут не паможа тая гаспадарчая работа, якая вядзецца цяпер на нашых землях. Работу гэтую можна параўняць да ўколаў хвораму лякарства. Нам трэба ня ўколаў а вялікай разбудовы промыслу. Толькі тут нажаль ізноў бачым, як нашыя землі ў канцы ўвагі эканамічнай дзяржаўнай палітыкі. Год таму назад быў створаны Цэнтральны Прамысловы Вокруг— Centralny Okręg Przemysłowy,— які мае на мэце падняць эканамічна польскую вёску, якую гэты вокруг абыймае. Насельніцтва гэтага вокругу найбяднейшае ў Польшчы. На абшары гэтага вокругу адбыліся ў 1938 г. бурныя дэманстрацыі і сутычкі сялян з паліцыяй. Цяпер, пасьля аднаго году працы промыслу, абставіны зьмяніліся. І ўжо прэм'ер генер. Складкоўскі ў Сойме аб гэтым абшары гэтак гаворыць:— «калі былі сутычкі

# PAMIOR PAPA RYMSKI PIUS XI

10 lutaha sioleta ŭ Rymie pamior hałoŭny kiraŭnik Katalickaha Kaścioła św. Ajciec Papież Pius XI. Z pachodžańnia byŭ jon Italjancam. Radziŭsia 31.V.1857 h. u m. Desio kala Medjolanu. Nazyvaŭsia Ambrožy Dziamian Achilles Ratti. Končyŭšy navuki i zdabyŭšy tytuł doktara filozolii, teolohii i kananičnaha prava, u 1879 h. paśviaciŭsia jon u ksiandzy i niezadoŭha pačaŭ zajmać što-raz vyšejšyja i bolš adkaznyja stanoviščy ŭ Katalickim Kaściele. Adnačasna zajmaŭsia jon navukovaj pracaj i napisaŭ mnoha roznych cennych knižak. Vialikija zdolnaści ks. Ratti ahc žviarnuli na jaho ŭvahu Papieža Benedykta XV, katory naznačyŭ jaho ŭ 1918 h. svaim pradstaŭnikom — nuncyjam u Polščy, a paśla ks. Ratti byŭ paśviačany ŭ biskupy, nastupna ŭ kardynały i ŭrešcie 6.II.1922 h., paśla śmierci Benedykta XV, vybrany na Papieža; pryniaŭ sabie imia Piusa XI.

Papież, ci lepš mo' budzie pabiełarusku Papa Pius XI byŭ sapraŭdy čałaviekam vialikim, stojkim, hodnym imia pravadnika relihijnaha žyćcia, abaroncam chryścijanskaje etyki i duchovaha raźviećcia čałavieka. Heta pryznajuć nia tolki kataliki, nia tolki ludzi relihijnyja, ale navat vorahi Katalickaha Kaścioła i tyja ludzi, katoryja ahułam nia chočuć pryznavać nijakaje relihii. Papa Pius XI luboŭju ahartaŭ usie narody, adkidaŭ usiakuju nienaviść i baraniŭ volnaść čałavieka i narodu, jak najvyšejšaha hramadzkaha ideału. Dziela taho rašuča vystupaŭ jon i praciŭ kamunizmu i praciŭ fašyzmu, i praciŭ inšych roznarodnych totalizmaŭ, katoryja ahraničajuć ludziam svabodu, zavodziačy dyktaturu niekatorych tolki hrupaŭ ludziej. Pamiatavaŭ uściaž Pius XI ab doli i kryŭdzie pracoŭnych masaŭ, i ŭ mieru siłaŭ imknuŭsia, havaryŭ, vydavaŭ adpaviednyja encykliki (pasłańni), zaklikajučyja da spraviadlivaha padziełu pracy i bahaćciaŭ.



PAPA PIUS XI

Pamiatavaŭ i adnolkava pabaćkaŭsku adnosiŭsia Papa Pius XI da ŭsich narodaŭ. Znaŭ jon i Biełarusaŭ. Budučy nuncyjam u Polščy i adviedvajučy ŭ studzieni 1920 h. Vilniu pryniaŭ delehacyju Biełarusaŭ katalikoŭ. U 1921 h. u Varšavie adviedaŭ jaho ks. Ad. Stankievič. U Rymie-ž u Papy Piusa XI byvali na pryniaćciach nastupnyja ksiandzy Biełarusy: F. Abrantovič, A. Cikota, J. Tarasevič, J. Hermanovič, Fr. Čarniaŭski i inš., katorych zaŭsiody paciašaŭ i padtrymlivaŭ na duchu. U minułym-ža 1938 h. z Rymu pryjšła ŭ Vilniu hrašovaja pomač na vydańnie Šv. Piśma pabiełarusku, jakoje znachodzicca ciapier u druku.

Praŭda, narod naš dalej ksiandzy navučajuć Božaha Słova papolsku, ale vina ŭ hetym nia Rymu i Apostalskaj Stalicy. Bo treba viedać, što ŭ Katalickim Kaściele majuć vielmi vialikija pravy miascovyja biskupy, pry tym adyjhryvajuć vialikuju rolu silnyja fizyčna hetaha śvietu... Aprača taho patrebnyja ŭ hetym pastajannyja damahańni Biełarusaŭ svaje rodnaje movy ŭ śviatyniach, až da akančalnaha ździejśnieńnia hetych damahańniaŭ, katoraje musić raniej ci paźniej nastupić. I Papa Pius XI zvaročvaŭ vialikuju ŭvahu na toje, kab ułasnaje duchavienstva kožnaha narodu pašyrała Chryścijanstva i navučała ludziej u ich rodnaj movie. Imienna za časoŭ Piusa XI paŭstała katalickaje duchavienstva siarod Nehraŭ, Kitajcaŭ, Indusaŭ, Japoncaŭ i inš.

Ahułam dziejnaść Papy Piusa XI była vialikaj. Dyk i nia dziva, što śmierć Jahonaja akryła žałobaj badaj uvieś kulturny śviet. Z. B.

# Мечыслаў Карловіч

*(З прычыны 30-тых угодкаў ягонай сьмерці)*

8 лютага сёлета мінула трыццаць гадоў ад дня трагічнае сьмерці аднаго з найвызначнейшых музыкаў, якіх выдала беларуская зямля,— Мечыслава Карловіча: згінуў ён у цьвеце гадоў пад раптоўна абсунуўшайся на яго масай горскага сьнегу ў Татрах, пад м. Касьцельцам, недалёка ад ведамага курорту для сухотнікаў Закапанае. Меў ён тады скончаных усяго 32 гады. На месцы, дзе ратаўніцкая экспэдыцыя знайшла скасьцянеўшае цела М. Карловіча, стаіць сяньня вялізны камень, з адпаведным надпісам хронолёгічным, закончаным славамі: »Non omnis moriar.»

Нашто ўсё гэта аб М. Карловічу мы ўспамінаем! Ці ня хочам яго забраць ад Палякоў, для каторых ён праз сваё кароткае жыцьцё так горача служыў, запісваючы на дадатак Варшаўскаму Музыкальнаму Т-ву нават усю сваю маемасьць?

Адкажам коратка. Робім гэты ўспамін: 1. каб аддаць належную дань чалавеку, які жыцьцё сваё і здольнасьці складаў безінтэрэсоўна на аўтар красы, мастацтва, 2. каб адцеміць, што гэты чалавек, хоць выйшаў з асяродзьдзя памешчыцкага, ня толькі не баяўся і ня чураўся народнай песьні беларускай, але сам гэту песьню пад-

(1937) з паліцыяй, я там быў. Сапраўды, сяляне зараблялі мала, выглядалі кепска, былі злыя. Цяпер (1938 год) я езьдзіў ізноў туды. Селянін зарабляе,—хапае яму на хлеб, хапае і на кусок мяса, выгляд чалавека зьмяніўся.» — Раю там пэўнеж няма, але палажэньне насельніцтва ўсё-ж палепшылася.

Для нашага народу з гэтага навука,што трэба канешна ўпрамыслаўляцца. Промысел — гэта пытаньне нашага жыцьця і сьмерці. Дзеля таго, што мы паміраць ня зьбіраемся, мусім дабівацца зьмены адносінаў дзяржаўных уладаў да нас. І тут ужо наступае патрэба іншай акцыі, якая мае на мэце паставіць беларускае пытаньне ўва ўсей яго шырыні. Акцыя гэта мусіць кіравацца наўперад да таго, каб Беларусы мелі свае сьведамае прадстаўніцтва ў самаўрадах, а так-жа ў парлямэнце. Мусім адначасна тварыць сільную нацыянальную адзінку, каб дабіцца сабе належнага месца пад сонцам. З.

хапляў і тварыў з яе недасягальныя цуды, урэшце 3. успамінаем, «колькі талентаў зьвялося, колькі іх і дзе ляжыць!?» таму толькі, што ў іхнюю пару разьвіцьця і працы беларускія народныя масы йшчэ ня былі належна аб сабе ўсьвядомлены. Адна толькі музыка страціла на гэтым такіх адзінак вырасшых з нашай зямлі, як Глінка, як Манюшка, як урэшце М. Карловіч.

—о—

Мечыслаў Карловіч, адзін з трох дзяцей ведамага этнографа і языкаведа Яна Карловіча, радзіўся 11.XII.1866 г. у двары Вішнева, у той час Сьвянцянскага, сягоньня Вялейскага павету. Па сканчэньні сярэдняй школы, музыкі вучыўся ў краі і заграніцай (праф. Г. Урбан, Бэрлін). Ад малых дзён М. Карловіч не расставаўся з скрыпкай, але ў пару мастацкага дасьпяваньня перайшоў бадай выключна ў клясу композытарства. Быў пад уплывам Чайкоўскага, Вагнэра і Р. Штраусса. Славу сабе здабыў сваімі **сымфонічнымі паэмамі**, з якіх найважнейшыя:«Паваротныя хвалі» (Opus 9), „Тры адвечныя песьні“ (Opus 10) і ўрэшце бязсьмертная ягоная **„Літоўская рапсодыя,“** напісаная на матывы **беларускіх** народных песьняў. Гэта рапсодыя, названая аўтарам »літоўскай“ (у значэньні гістарычным), адбівае ў сабе сум беларускай прыроды і самага народу, спалучаныя ў адну цэласьць. Адбываецца ў сымфоніі для контрасту і мотыў весялейшы, які аднак узноў пераходзе ў яшчэ глыбейшую задуму. Усё гэта вялікі Мастак глыбака адчуваў з акружаючай прыроды і выліў у сваей пэрле—»Літоўскай рапсодыі.» —

Сяньня ў 30 гадоў па сьмерці М. Карловіча, калі гэтак цяжка пачуць публічнае выкананьне ў мастацкай форме беларускай песьні, можам яшчэ часам пачуць М. Карловічаву „Рапсодыю літоўскую». — Паслухайма-ж яе хоць-бы ў перадачы „Польскага Радыя.“ І не адкладайма, бо хто ведае, ці там з часам ня выракуцца і М. Карловіча, як выракліся улюбленай ім беларускай песьні і як Варшаўская фільгармонія выраклася самага М. Карловіча яшчэ пры ягоным жыцьці. Не адкладайма! Гэтым хоць ушануйма памяць Вялікага Сына нашай Зямлі.

*Беларус*

# ŠVIATA RADAŚCI LITOŨSKAHA NARODU

Sioleta 16-ha lutaha śviatkavali Litoŭcy ŭžo 21-ja ŭhodki isnavańnia svajho niezaležnaha haspadarstva — Litvy. U hety dzień uspaminali Litoŭcy svaju minuŭščynu, svajo daŭniejšaje haspadarstviennaje žyćcio, niavolu, baraćbu z čužoj akupacyjaj, a tak-ža rabili pierahlad tych zdabyčaŭ, jakija dało im svajo novaje niezaležnaje haspadarstva. Dzień abvieščańnia niezaležnaści Litvy — 16 lutaha — ŭračysta śviatkavali i Litoŭcy ŭ Vilni, a vitali ich pradstaŭniki Biełarusaŭ i Ukraincaŭ. Nacyjanalnaje śviata Litvy śviatkavali i litoŭskija emihranty, ciažki los katorych u časoch carskaje niavoli zakidaŭ časta na dalokuju čužynu. Najbolš adnak uračystym i radasnym dniom byŭ 16 luty siarod tych Litoŭcaŭ, katoryja žyvuć u svaim haspadarstvie i karystajuć z dabradziejstvaŭ i apieki jaho. I sapraŭdy, Litoŭcy majuć čym ciešycca. Voźmiem choć-by karotki ahlad zdabyčaŭ Litoŭskaha Narodu ŭ svaim haspadarstvie, jaki sioleta na Novy Hod rabiŭ litoŭski premjer ks. V. Mironas. Z pramovy jaho daviedvajemsia ab Litvie nastupnaje:

**Aśvieta.** U hetaj halinie ŭ 1920 h. było tolki tysiača pačatkavych škoł i 70 tysiač vučniaŭ. Ciapier — u minułym hodzie — ŭ Litvie isnavała 2,5 tysiač pačatkavych škoł i 300 tysiač vučniaŭ. Biazhramatnych siarod novaha pakaleńnia niama susim. U halinie aśviety siaredniaj — u 1920 h. było 40 siarednich škoł i 9 tysiač vučniaŭ Ciapier isnuje 90 himnazijaŭ i 18 tysiač vučniaŭ, a tak-ža cely rad roznych škoł adumysłovych i 8 tysiač vučniaŭ. U 1920 h. było vypuščana 90 abiturjentaŭ, a ciapier kožny hod kančaje siarednija škoły zvyš tysiačy asob. Praz uvieś čas niezaležnaści Litvy litoŭskija himnazii vypuścili kala 17 tysiač abiturjentaŭ, a ŭniversytet daŭ 3,200 asob z vyšejšaj aśvietaj.



**Pamiatnik svabody ŭ Kaŭnasie pry litoŭskim universytecie im. Vitaŭta Vialikaha.**

**Presa.** Na pačatku niezaležnaści Litvy ŭsich hazet vychodziła da 20 tysiač ekzemplaraŭ, a ciapier vychodzić zvyš paŭtarasta peryjodyčnych vydańniaŭ z tyražom da miljona ekzemplaraŭ. Adzin časapis prypadaje što treciamu žycharu.

**Ziemlarobstva,** jakoje prad vajnoj stajała nizka, ciapier pajšło daloka ŭpierad: reforma ziamielnaja, chutaryzacyja, palepšańnie haspadarańnia, lepšyja sarty nasieńnia i lepšyja hatunki žyvioły, melioracyja, dziakujučy jakoj zdabyta 450 tysiač hektaraŭ aromaj ziamli.

**Promysieł i handal** vyras taksama. Pradusim duža vysoka raźviŭsia toj promysieł i handal, jaki pierarablaje i eksportuje płady ziemlarobskich haspadarak. Hetamu słužać takija viedamyja arhanizacyi, jak „Maistas“, „Pienocentras“ i „Lietukis“. Pamysna raźvivajučysia promysieł i handal dajuć pracu litoŭskamu rabotniku, jaki nie patrabuje dziela hetaha emihravać za hranicu.

Padčyrknuć tak-ža treba vialikija postupy Litvy ŭ halinie raźvićcia knihi, radja, žyćcia arhanizacyjnaha, srodkaŭ kamunikacyi, navuki, sportu i inš.

Usio heta vialikija zdabyčy niezaležnaści Litvy. Ci mieŭ-by heta Litoŭski Narod pry čužoj uładzie? Napeŭna nie! Bo čužyja ŭłady hladziać, kab z čužoha im kraju tolki brać, a nie palapšać jahonaje pałažeńnie. Dziela taho, kožny narod imkniecca da samastojnaści, da ŭłasnaje haspadarstviennaści, a zdabyŭšy jaje ciešycca i baronić.

*jns.*

# Polskaja presa i biełaruskaja prablema

Adnosiny polskaje presy da biełaruskaje prablemy davoli dziŭnyja. Presa heta ahułam abminaje moŭčki ŭsie biełaruskija spravy i starajecca stvarać nastroi, što byccam Biełarusaŭ zusim niama. Ale jak pajaviacca ab Biełarusach artykuły ŭ zahraničnaj presie, tady pačynajecca pisanina i ŭ polskich hazetach, i to jašče jakaja... Chto jak papadzie, na svoj sposab vyjaŭlaje znajomstva biełaruskaje prablemy i kožny pa svojmu jaje raźviazvaje. Adny pišuć, što ŭsio-ž Biełarusaŭ niama, druhija—što jany jość, ale ich treba vynaradavić, trecija—sami nia znajuć jość, ci niama, a inšyja kažuć, što Biełarusy nia tolki nie vynaradaŭlajucca, nia tolki nie palanizujucca, ale biełaruščać navat polskich asadnikaŭ, katoryja mieli siarod Biełarusaŭ siejać polskuju kulturu i h.d.

Hetkaja bolš-mienš pisanina pajaŭlajecca ŭ polskaj presie apošnim časam, kali ab Biełarusach pačali pisać hazety francuskija, českija, niamieckija i inšyja, uvažajučy biełaruskuju prablemu daśpiełaj naležnaha raźviazańnia. Čytajučy zahraničnuju presu, polskija hura-patryjoty hublajuć nervy. I tak niejki Skurevič (b. starasta) pabačyŭšy da taho i ŭ polskich hazetach artykuły ab Biełarusach prosta histeryčna kryčyć u „Czerwonej Róży“, što „Biełaruskaj prablemy niama i nia budzie, a jość tolki čužaja dyversyja, na katoruju „adna rada“ — prakuror, kancentracyjnyja łahiery i h. d.“—Z takoj pisaniny pavažnyja ludzi, biazumoŭna, buduć tolki śmiajacca. Navat „Polityka“ — orhan maładych polskich imperyjalistaŭ—u numary z 10.II nazyvaje jaje „škodnym insektam“, pryznajučy, što treba šukać padstavy dziela sužyćcia Biełarusaŭ z polskaj haspadarstviennaściu.

Viedamy „Ilustravany Kurjer Codzienny“ 10.II padaŭ cikavy artykuł ab Vialikaj Biełarusi, u jakim miž inšym piša:

.. „U nadbałtyckich krajoch chodziać dziŭnyja čutki, jakija prajaŭlajucca ŭ hazetnych artykułach, u palityčnych hutarkach i navat u brašurach. Voś-ža ŭ Łatvii, asabliva ŭ Lethalii, siarod biełaruskaha nasielnictva havorać ab novaj respublicy, jakaja maje paŭstać z ziamiel adarvanych ad Łatvii i jakaja maje nazyvacca „Kryvija“. Heta maje być aŭtanomnaja respublika, stvoranaja pa prykładu Zakarpackaj Rusi (Karpackaje Ukrainy—j.n.). Havorać i pišuć, što heta biełaruskaja respublika była-b Pjemontam, jaki pašyryŭ-by svaje ŭpłyvy na litoŭskuju, polskuju i savieckuju respubliku i davioŭ-by da stvareńnia „vialikaj“ biełaruskaj respubliki. Hetaja respublika była-b etapam niamieckaha pachodu ŭzdoŭž Bałtyku na Maskvu, taksama jak Zakarpackaja Ruś maje być etapam takoha-ž pachodu ŭzdoŭž karpackich horaŭ na Kijeŭ“.

Dziela taho, kaža ŭ kancy „IKC“, „musić vyjści z našaha (polskaha—J. N.) boku natuha apiortaja na tyja dziejniki, jakija farmavali-b našuju misiju na ŭschodzie i na tyja ideały, jakija z Polšču tvaryli-b pryciahvajučy dziejnik dla słabych plamionaŭ“...

Cikavicca biełaruskaj prablemaj i polskaja monarchistyčnaja „N. Przyszłość“, jakaja ŭkładajučy svaju prahramu kaža: „Polšč, Litva, Ruś i Biełaruś musiać znajścisia pad supolnaj strachoj u jakoj-niebudź formie, jak roŭnyja z roŭnymi, jak supolnyja tvarcy i haspadary specyjalnaha mocarstva, pry tym polskamu narodu apiortamu na najvyšejšyja tradycyi, kulturu palityčnuju i vyrableńnie prypadaje rola „narodu przewodniego“. Adnačasna „N. Prz.“ rukami Biełarusaŭ choča pieramahać Rasiejcaŭ i Ukraincaŭ. Hetych apošnich jana zusim nie pryznaje i na ich miesca sadzić h. zv. Rusinaŭ—adłam Ukraincaŭ, katoryja nia imknucca da samastojnaści. Takim čynam užo vyjaŭlajecca niaščyraść „Naszej Przyszłości“.

Dziela abznajamleńnia z biełaruskaj prablemaj svaich čytačoŭ, „Nasza Przyszłość“ u № 67 za m-c studzień sioleta nadrukavała artykuł biel. publicysta P. Łastaŭki ab Biełarusach z redakcyjnaj dapiskaj, u jakoj havorycca: Znajomaść z biełaruskaj prablemaj źjaŭlajecca „siańnia tym patrabniejšaj z uvahi na toje, što niekatoryja dziejniki chočuć zakryć samaje isnavańnie biełaruskaha narodu, naiŭna dumajučy, što ŭ sučasnuju paru ahulnaha nacyjanalnaha ŭśviedamlańnia na ŭsim śviecie možna było-b ab niekalki miljonnym narodzie pramaŭčać abo štučna jaho zasymilavać“.

Zusim pravilna. Biełarusaŭ nia možna ŭžo abminuć, schavać, abo zamaŭčać ab ich. Biełarusy žyli i buduć žyć, usio roŭna, ci heta kamu padabajecca ci nie. Chto adnak choča tvaryć asiarodki pryciahvajučyja Biełarusaŭ, pavinien padchodzić da hetaha pavažna i nia z pustymi słavami, a z kankretnymi čynami, katoryja davali-b mahčymaść sužyćcia i razvoju biełaruskaje kultury i haspadarki, a nia z tym, što karaje roŭ propaści!

J. N.

* * *

Прысьв. М. Дварэцкаму.

*Сьвеціць месяц —*
*месяц сьвеціць.*
*Серабрыцца белы сьнег.*
*Ну нашто чупрыну весіць, —*
*сумаваць людзям на сьмех?*

*Замяла мяцель дарогі,*
*занясьлі сьнягі прастор.*
*Не накорміш сіл зьнямогай,*
*не падымеш воч да зор.*

*Клён стаіць купцом багатым,*
*сьнег цярэбіць з барады;*
*не дайсьці ніяк да хаты, —*
*пад сьнягом усе сьляды.*

*Прыдарожныя бярозы*
*сьнег калышуць на суччу.*
*Сьнег і сьнег...*
*і я праз сьлёзы*
*больш сьмяяцца не хачу.*

*Хоць і знаю я што людзі*
*пракладуць ізноў шляхі.*
*Смутак ёсьць*
*і радасьць будзе,*
*на зямлі ня век сьнягі.*

*М. МАШАРА*

Дзікева, 17.I.39.

## Зіма

*Заснула возера. Па тонях*
*ня чутна больш бурлівых хваль.*
*Кусты аголены. На гонях*
*ірдзіцца сьнег, блішчыць, як сталь.*

*Душа мая адпачывае,*
*і вока цешыць белы сьнег,*
*а думка ластаўкай шыбае —*
*і ня стрымаць-жа яе бег.*

*Пад белай сьнежнай палатнінай*
*заснуўшы бачу родны край.*
*Сплываюць дніпрацёртай каляінай*
*а ў сэрцы радасьць—прыдзе-ж май!*

*М. БАЗЫЛЮК*

* * *

*Ня ў гучнай бяседзе пры піве і мёдзе*
*Спаткаеш ты друга сабе,*
*А ў горкай нядолі, ў пакуце і болі*
*Хто з помачу прыйдзе к табе..*

*Бо ў гучным настрої,*
*пры хмельным напоі,*
*Знай—кожны глядзіць за сябе...*
*У горы-ж заклятым*
*і другам і братам*
*Усякі ўжо будзе табе.*

*А. МІЛЮЦЬ*

# Воды Беларусі і іх эканамічнае значэньне

Рэкі і вазёры заўсёды ігралі вялікую ролю ў жыцьці чалавека. Гэта шляхі перасуваньня народаў, шляхі асядленьня, шляхі транспарту, шляхі гістарычных падзеяў. Воды да нядаўнай мінуўшчыны становілі галоўныя жыцьцядайныя абставіны чалавека і на нашых землях. Рэкі зьяўляліся найлепшымі, танейшымі, часта адзінымі дарогамі, па якіх адбываліся гандлёвыя падарожжы. Далучаючы яшчэ вазёры, можна сьмела сказаць, што воды нашых сухаземляў гэта вялікі магазын рыбнога багацьця, з якога карыстае ладная частка беларускага малазямельнага насельніцтва ў часы сваіх цяжкіх умоваў жыцьця.

З географічнага пункту гледжаньня рэкі беларускіх земляў належаць да тыпу раўніннага. Крыніцы іх ляжаць на балоцістых роўнядзях, або ў групах вазёраў. Дзеля таго, ток іх (бег) ёсьць даволі павольны, сярэдня 3 км на гадзіну, а спадак таксама невялікі, бо ад 6—12 см. на адным кілёмэтры. Гэтак напр. Дняпро выцякае з г. зв. выжыннага тарпавішча пад Пакровам, Белойскага павету (БРСР) на вышыні 250 м. над роўняй мора. З усіх крыніц нашых рэкаў гэтая—зьяўляецца найвышэй палажанай, бо нават Нёман, які агульна кажучы выцякае з Менскіх узгор'яў, бярэць пачатак на вышыні 177 м. над роўняй мора пад Кайданавам. Але вось якраз гэная павольнасьць цёку нашых рэкаў зьяўляецца дарагім рысам із гледзішча іх ужытку камунікацыйнага. Прыкладам Бярэзіна на даўжыні 470 км. здатная да сплаву (дзерава і іншых тавараў), Сож—левы прыток Дняпра —на даўжыні 355 км, Прыпяць 580 км. Амаль палавіна даўжыні гэтых шляхоў здатная для судаходзтва. Дняпро ўжо ад Дарагабужа(Смаленскай вакругі) ёсьць судаходным і траса гэтая цягнецца аж за межы БРСР, да Днепрапятроўска (Екацерынаслаў), адкуль пачынаюцца неапанаваныя яшчэ тэхнікай дняпроўскія „парогі.“

Рэкі Беларусі, абмінаючы гэны, як здавалася-б, слабы бок з гледзішча выкарыстаньня сілы й хуткасьці іх цёку, маюць той характэрна практычны рыс, што вельмі зблізкаюцца ў сваіх вярхоўях, г. зн. што рэкі належачыя да розных вадазборнікаў (Чорнага Мора й Балтыцкага Мора), маюць верхнія цёкі зближаныя да сябе. Гэта дазваляе на палучэньне іх каналамі, не вымагаючае вялікіх коштаў. Палучыцьць-жа каналамі розныя вадазборнікі — гэта прарэзаць шырокую, танную дарогу для транспарту на даўгім, даўгім адрэзку. Галоўных сыстэмаў каналізацыйных на нашых землях маем чатыры. Будуць гэта перадусім Бярэзінскі сыстэм, што лучыць Бярэзіну, прыток Дняпра, з Дзьвіною пад Лепелям (БРСР),— гэта шлях із поўначы на паўдня; далей важную ролю іграе таксама канал Агінскага на Палесьсі, які лучыць —праз Шчару, Выганаўскае возера й Ясельду— Нёман із Прыняцьцю; сыстэм Каралеўскага каналу, ізноў-жа на Палесьсі, творыць шлях захадні: Прыпяць— Буг праз Піну й Мухавец. Яшчэ адзін із большых— Аўгустоўскі канал у Сувальшчыне— гэта вакно Віленшчыны на захад, гэта шлях Нёман — Вісла праз Чорную Ганжу й Бебру.

Вось у агульным начырку сыстэм водных дарог Беларусі. Выдавалася-б, як ужо было ўспомнена, што апрача рыбнога багацьця і вялікага камунікацыйнага значэньня нашы рэкі ня могуць даць балей чагосьці вартаснага. Не, гэта толькі выдаецца! Цяпер часы працы, часы выкарыстаньня ня толькі людзкой сілы, але й сілы прыроды! А гэтакую сілу хаваюць у сабе і бягучыя воды. Невялікая бяда, што нашыя рэкі маюць толькі 3 км. на гадзіну хуткасьці, пры адпаведным змэханізаваньні, тэхнічнай апрацоўцы удалага пляну — усё можна выкарыстаць. Аблічана, што бягучая вада на Беларусі мае запасу энэргіі каля 4 мільёнаў кілёватаў (kW). Адзін кілёват—гэта колькасьць энэргіі, сілы, якая можа заступіць сілу амаль чатырнаццаці асоб (13,6 людзкіх сілаў), дык колькі-ж тады можна было-б заашчадзіць людзкой сілы, каб усю энэргію нашых рэкаў выкарыстаць? На жаль, вельмі мала ў гэтым кірунку зроблена. Толькі на Дняпры, у Радзянай Украіне, пабудавана аграмадную гыдрастанцыю, Дняпрогэс, закончаную ў 1932 г., якой інсталяваная сіла налічае 558.000 kW і дзейнасьць якой сягае так-жа і на землі Радзянай Беларусі. Гэта найвялікшая вадзяная станцыя на цэлым сьвеце. Уся-ж БРСР карыстала ўжо ў 1937 г., улучна з „галінаю“ Дняпрогэсу, з энэргіі г. званага „белага вугля,“ вартасьці на 125 тысяч kW. Сіла гэтая йдзе пераважна на электрыфікацыю і ўрухамленьне хвабрыкаў краю, а таксама — дзякуючы адумысловым аддзелам на некаторых водных станцыях Беларускай Рэспублікі — ідзе на асушэньне балоцістых абшараў.

Праз поўную рэгуляцыю Дняпра, Бярэзіны, Прыпяці й Дзьвіны можна змэльяраваць (асушыць) некалькі мільёнаў гэктараў балоцістага грунту Беларусі, але на гэтак зв. „Крэсах Усходніх“ адкладаюцца гэтыя рыботы да часоў, калі нашыя лугі будуць патрэбныя для дапаўненьня земляробскай гаспадаркі цэнтральных і заходніх земляў Гольшчы, а ў Радзянай Беларусі, хоць праўда йдзе ў гэтым кірунку работа, усё-ж яшчэ таксама шмат амаль дзірваном марнуецца пераводняных абшараў.

З вышэй дадзеных цыфраў бачым, што на Беларусі выкарыстоўваецца толькі каля 3 прац. воднай энэргіі, калі ўсюды ў эўрапейскіх і іншых дзяржавах выкарыстаны гэты запас у шмат большай частцы. Прыкладам, у у Італіі 98 прац., у Японіі 88 прац, у Францыі 41 прац., у Нямеччыне 11 прац. у СРСР 6 прац., у Амэрыцы 40 прац.

Зсумоўваючы гэта ўсё, сьцьвярджаем, што таксама запас энэргіі, абняты цёкам нашых водаў, як і запас рыбнога багацьця, выкарыстаньне якога зьяўляецца рацыянальным толькі праз рыбныя коопэратывы, — усе гэтыя вартасьці бягучай вады нашых сухаземляў патрабуюць неадкладнае апекі, неадкладнага зарганізаваньня людзкіх магчымасьцяў: пляновасьці й тэхнікі і яшчэ вялікай духовай вартасьці—арганізацыйнага пачуцьця, неабходнага ў коопэрацыі.

*Т. Трафімучанка*



# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Sprava biełaruskaje relihijnaje presy.** U apošnim numary „Šlachu Moładzi“ zvaročvali my ŭvahu na patrebu biełaruskaje pravasłaŭnaje presy i z žalem musili śćvierdzić, što dla raźvićcia jaje pravasłaŭnaje duchavienstva absalutna ničoha nia robić. „Chryścijanskaja Dumka,“ jakaja davoli šyraka ahavarvaje relihijnaje žyćcio Biełarusaŭ katalikoŭ, a taksama i Biełarusaŭ pravasłaŭnych, nie zmahła sioleta raźvić šyrej svajho vydaviectva z pryčyny vysialeńnia z Vilni vydaŭca hetaha časapisu i hałoŭnaha supracoŭnika ks. Adama Stankieviča. Ad novaha 1939 hodu pierastaŭ vychodzić u Varšavie biełaruski časapis „Złučeńnie,“ praznačany dla Biełarusaŭ unijataŭ, katorych lik jość užo davoli vialiki. Zatoje adnak ad novaha biahučaha hodu pavialičyŭsia raźmieram biełaruski časapis metadystaŭ „Сьветач Хрыстовае Навукі“, jaki vychodzić u Varšavie.—Ci heta dobra, astaŭlajem vyrašyć pravasłaŭnym, a taksža i katalickim duchoŭnikam.

**30-tyja ŭhodki śviaščenstva a. Archimandryta F. Abrantoviča.** Tolki niadaŭna dajšli da nas viestki z Dalokaha Uschodu, što ŭ kancy minułaha 1938 h. u Charbinie ŭračysta śviatkavaŭ 30-tyja ŭhodki svajho śviaščenstva viedamy biełaruski dziejač a. Archimandryt Fabjan Abrantovič, katory ŭstupiŭšy ŭ zakon a.a. Marjanaŭ kiruje ciapier chryścijanskaj misijaj u Mandžuryi.—Vysoka Pavažanamu Jubilaru pasyłajem najlepšyja pažadańni!...

**„Ateneum“ ab biełaruskaj litaratury.** Litaraturny Varšaŭski časapis „Ateneum“ źmiaściŭ niadaŭna davoli vialiki i cikavy artykuł ab biełaruskaj litaratury, aŭtaram jakoha źjaŭlajecca biełaruski publicyst i litarat Piotr Łastaŭka.

**Biełaruskija litaraturnyja tvory na litoŭskim litaraturnym viečary.** U niadzielu 12.II Litaraturny Hurtok vučniaŭ litoŭskaje himnazii im. Vitaŭta Vialikaha ŭ Vilni ładziŭ litaraturny viečar, u časie jakoha byli pračytany niekalki vieršaŭ i raskazaŭ biełaruskich paetaŭ: Jakuba Kołasa, Kupały, Mašary i inš.

**Vieršy Mašary i Tanka papolsku.** Viedamy litaraturny polski časapis „Kamena“ ŭ № 5 sioleta źmiaściŭ iznoŭ vielmi ŭdała pierakładzienyja na polski jazyk dva vieršy bieł. paetaŭ M. Mašary i M. Tanka. Strojny pierakład ich na polskuju movu zrabiŭ redaktar K. A. Javorski.

**Biełaruska - litoŭska - ukrainskaja viečaryna.** Biełaruski, Litoŭski i Ukrainski Studenckija Sajuzy ŭ Vilni 18.II siol. ładzili dziesiatuju tradycyjnuju supolnuju viečarynu, katoraja prajšła vielmi ŭdała.

**Uzory biełaruskich pajasoŭ i tkaninaŭ.** Dziakujučy starańniu biełaruskich žančyn, hetymi dniami ŭ Vilni vyjšła z druku 5 paštovych kartak (pisulkaŭ) z uzorami biełaruskich pajasoŭ i tkackich arnamentaŭ. Uzory, a tak-ža i samyja paštovyja kartki vielmi pryhožyja i radzim zacikavicca imi biełaruskim dziaŭčatam i žančynam na vioscy i ŭ miastečkach. Cana adnaje kartki 20 hrošaŭ. Hałoŭny skład ich u Kniharni „Pahonia“, Vilnia, Zavalnaja 1.

**Jubilejny numar „Šlachu Moładzi.“** Paviedamlajem, što jubilejny numar „Šlachu Moładzi“, z pryčyny dziesiacihodździa isnavańnia jaho, vyjdzie 25.III.39., heta znača ŭ tym časie, kali ŭ 1929 hodzie vyjšaŭ pieršy numar „Šlachu Moładzi.“ Matarjały da jubilejnaha numaru buduć pryjmacca da 15 sakavika.

**Sud nad redaktaram „Бел. Фронту.“** 8.II. Vilenski Haradzki Sud razhladaŭ spravu redaktara „Бел. Фронту,“ mgra V. Hadleŭskaha, abvinavačanaha z art. 170 K. K. za źmiaščeńnie ŭ n ry 7 dnia 7 lipnia 1938 h. artykułu „Zahad zrazańnia biełaruskich bramaŭ,“ u katorym Vil. Har. Starastva dahledziła pašyrańnia fałšyvych viestak, mohučych vyklikać publičny niespakoj. Sud pastanaviŭ abvinavačanaha apraŭdać. — Cikava, što praces hety na damahańnie prakurora adbyvaŭsia pry začynienych dźviarach.

**Dalej zabaraniajecca.** Daviedvajemsia, što Staŭpieckaje starastva i nadalej nie daje dazvołu na biełaruskija pradstaŭleńni. Z hetaj pryčyny nie mahli adbycca prajektavanyja Biełaruskim Dabradziejnym Tavarystvam dva spektakli ŭ Stoŭpcach.

**Biełarusy ŭ Francyi.** „Белар. Фронт“ u № 4 z 15.II piša, „što ŭ minułym hodzie ŭ Paryžy na ahulnaj zborcy biełaruskich rabotnikaŭ Paryskaje akruhi prysutnyja pastanavili abłažycca na kuplu mašyny da pisańnia i drukarskich pryładaŭ padatkam u sumie adnadniovaha svajho zarabotku. Biezrabotnyja achviaravali adnadniovuju svaju dapamohu, pryčym zajavili, što dzień uznosu padatku abjaŭlajuć dniom postu na svaju biełaruskuju spravu. Prezydyja Chaŭrusu Bieł. Rabotnikaŭ u Francyi pastanaviła viašci rejestracyju tych, chto padaść svajo zabaviazańnie, farmujučy jaho: „Paščů adzin dzień u miesiac, a hrošy addaju na biełaruskija spravy“... (dalejšyja słovy dziela viedamych pryčyn prapuskajem—red.). Razyjšlisia siabry z vialikim duchova-moralnym padjomam i vieraju ŭ pieramohu vialikaj biełaruskaj idei.. Nastroj schodki vyjaviŭ mahutny nacyjanalny ŭzdym u biełaruskich pracoŭnych Paryskaje akruhi.“

## Finansavaja reforma ŭ Polšcy

Nadoviačy Rada Polskaha Banku pastanaviła zrabić niekatoryja źmieny (reformu) ŭ arhanizacyjnym statucie Banku. Takuju-ž reformu pravieli niadaŭna Anhlijcy. Palaki pajšli za ich prykładam. U čym-ža sutnaść hetaj reformy, pastarajemsia jak najkaraciej vyjaśnić.

Da hetaha času ŭ Polšcy, taksama jak i ŭ bolšaści haspadarstvaŭ, papiarovyja hrošy musili mieć pakryćcio zołatam, heta značyć, što na niekataruju kolkaść papiarovych hrošaŭ ličyłasia 1 klh. zołata. U abarocie było apošnija časy 1 miljard 573 miljony złotaŭ. Z hetaj sumy 100 miljonaŭ nie vymahała pavodle statutu pakryćcia zołatam. Załatoha zapasu było i jość u Polskim Banku na 446 miljonaŭ zł. Inačaj kažučy, załatoje pakryćcio raŭniałasia 30,28 prac. (1573 miljony minus 100 miljonaŭ padzialić praz 446 miljonaŭ). Ciapier ža budzie inačaj. Rada Banku ŭpaŭnavažyła Bank vydać bolšuju sumu papiarovych hrošaŭ biez pakryćcia zołatam, a tym hrošam, jakija jaho majuć na 30.28 prac. padniać pakryćcio zołatam da 40 prac. Zamiest 100 miljonaŭ biez pakryćcia Bank moža vypuścić 800 miljonaŭ, a na't 1 miljard 200 miljonaŭ. Tady ŭ abarocie moža być zamiest 1.573 miljonaŭ — 1.915 miljonaŭ, abo navat 2.315 mil., ci jnakš 2 miljardy 315 miljonaŭ. Dziela taho, što ŭsie hrošy adrazu nia pojduć u abarot, urad budzie mieć vialija hrašovyja zapasy, jakija zmoža puścić na haspadarstviennyja (dziaržaŭnyja) vydatki, jak uvaružeńnie, razbudovu Centr. Pramysłovaha Vokruhu (COP) i inš.

*Z.*

Pierasyłka apłačana ryčałtam.






## Трэба вярнуцца да добрых звычаяў

**Гароднікі каля Квасоўкі, Горадзенскага павету.** Пару год таму назад быў у нас уведзены ў жыцьцё вельмі прыгожы звычай рабіць пастанову ня піць гарэлкі, а калі хто не падпарадкаваўся гэтай пастанове, таму ўсе аб'яўлялі сяброўскі байкот. Цяпер, ня гледзячы на тое, што нацыянальная сьведамасьць беларуская вельмі ўзрасла, заўважваецца паварот да п'янства, каторае руйнуе нас. Вось-жа прыгожы і ўводжаны ўжо звычай байкоту п'яніцаў трэба абавязкава аднавіць і ўсюды неадкладна яго ўводзіць на нова, асабліва ў жыцьцё моладзі. Тыя-ж грошы, што ішлі на гарэлку, няхай ідуць на кніжкі і газэты беларускія, каторыя дадуць нам разрыўку і цэнныя ды цікавыя весткі і артыкулы.

**М. Г—іч.**

## Пашыраецца сэктанства

**Дзятлава, Наваградзкага павету.** Сяляне нашае і суседніх воласьцяў ня раз дамагаліся беларускіх школаў для свае моладзі, аднак іх дасюль няма. Вучыцялі далей вучаць толькі папольску. Апрача таго нават і праваслаўнае духавенства пачало навучаць рэлігію дзяцей папольску, ды ўвяло па школах, як абавязкавыя, падручнікі Закону Божага ў польскай мове, якое з нашых вясковых беларускіх жыхароў ніхто добра ня знае. Усё гэта зьбівае, як кажуць, з толку селяніна, а ў выніку--пашыраюцца розныя сэкты. Чаму гэтага не бяруць пад увагу духоўныя ўлады?

**Сьлёзнавокі**

## Nie dapuścili na śpisak kandydataŭ

**St. Haby, Pastaŭski pav.** Vybary ŭ hramadzkija rady adbyvalisia ŭ nas davoli dziŭna. Kiravali imi pieravažna vučyciali z svaimi zastupnikami. Kali-ž byŭ u našaj vioscy padany ŭ kandydaty na radnaha adzin z Biełarusaŭ, jaki kaliś naležaŭ da biełaruskich arhanizacyjaŭ, dyk jaho vučyciel zusim adkinuŭ i ŭ śpisak kandydataŭ nia ŭpisaŭ. Tymčasam čałaviek hety vielmi česny, akuratny hramadzianin, nia byŭ sudžany. Taki pastupak vučyciela ŭsich aburaje, bo niespraviadlivy.

**Al. Š—ko.**

**Ad redakcyi:** Viestak ab samavolnym niedapuščańni kiraŭnikami vybaraŭ u samaŭrad na pravincyi niekatorych Biełarusaŭ, asabliva tych, jakija kali-niebudź naležali da biełaruskich arhanizacyjaŭ, znachodzicca što-raz bolš. Dziela hetaha ŭsim, dzie padobnyja fakty zdaralisia, radzim nieadkładna padavać pratesty pavietavym starastam, abo j vyšejšym administracyjnym uładam.

**Прыпамінаем, што хто не прышле падпіскі, таму высылка „Шляху Моладзі“ будзе стрымана.**

## Biełaruskaja pieśnia našaj padporaj

**Rahova kala Biełastoku.** Mnohim haradzkim „panom“ zdajecca, što śviedamašć nacyjanalnaja siarod Biełarusaŭ kala Biełastoku hinie. Chutka adnak zhinuli-b ichnija niedarečnyja dumki, kab jany pabyli na viaskovych viasiellach, chreśbinach ci viečarynkach, na katorych pačuli-b bahactva i siłu našaha narodu — našuju biełaruskuju pieśniu, katoraja krasujecca i nie dapuścić, kab zahinuŭ narod naš Biełaruski. Bo kožny narod žyvie ŭ svajej pieśni. A pieśnia našaja bahataja i melodyjaj i słavami, darahaja i bliskaja nam. Nie zastupiać jaje ni mazurki, ni kujaviaki, ni oberki. I nichto nia zmoža adabrać nam jaje, ani skryvić. Nia ŭdasca heta i roznym machieram z „kaskadaŭ“ i „uciechaŭ“, katoryja chitra padbirajučy słovy da biełaruskich narodnych melodyjaŭ śpiavajuć ich z vilenskaje radyjostancyi jak niejkija nova-adkrytyja biazimiennyja „pieśni ludove“.

Dyk hrymi naša pieśnia ŭsiudy i zaŭsiody! Raźvivaj siłu i vieru Biełarusa ŭ svaju nacyjanalnuju mahutnašć!

**P. Bar—vič.**

## *Паштовая скрынка*

**Г. Дзя—шка:** Вершы слабаватыя, патрабуюць лепшай апрацоўкі. Поступ аднак ёсьць, дык добра, што працуеце над сабой.

**Я. Нарцызу:** Апавяданьне будзем старацца выкарыстаць. Верш вельмі падобны да вершу К. Буйло „Люблю наш край“, не арыгінальны і дзеля таго ня можам яго друкаваць. Грошы і заказ на кніжкі перадалі кнігарні „Пагоня.“

**Антуку Р.:** На паданы адрыс „Шл. Мол.“ высылаецца. Адказ у справе твораў быў паданы ў № 2 „Шл. Мол.“

**А. Гацуры:** Верш „Ой у полі“ — нішто-сабе, надрукуем. Рэшта слабыя. На падпіску пачакаем. З прычыны сьмерці бацькі засылаем Вам шчырае спачуваньне!

**J. Pietušcy:** Matarjał atrymali, dziakujem i vykarystajem. Pryvitańnie!

**Al. Š—ko:** Vieršy słabyja. Karespandencyju vykarystajem. Prapahandovyja numary vysłany.

**P. Bar—viču:** Karespandencyju atrymali. Vykarystyvajem. Probnyja numary vysłali. Prosim pisać čaściej.

**V. Mir.:** U vieršach Vašych kulhaje mova, rytm i rym. Paraŭniajcie svaje tvory da tvoraŭ Kupały ci M. Bahdanoviča, a lohka pabačycie roźnicu. Kolki kaštuje karta, nia viedajem, bo heta zaležyć ad miascovych uładaŭ. Karespandencyi achvotna nadrukujem i prosim pisać čaściej.

**Л. Мядзьведзю:** „Шл. Мол.“ высылаем акуратна. № 3 выслалі паўторна. Просім пільнаваць на пошце.

**J. Z—nu:** Častku patrebnych knižak vyšlem, rešty-ž nia majem. Ciešymsia z Vašaje pracy i čakajem na abiacanaje. Vierš nažal słabavaty. Pryvitańnie!

**Marsu:** Prośbu ŭ spravie knižak pieradali kniharni „Pahonia“. Vieršy da druku nie padchodziać, ale zdolnaści da piara majecie i treba ich raźvivać.

**Z. K.:** Vierš kulhaje rymam i rytmam, kali ŭdasca jaho papravić, nadrukujem. Za pažadańni ščyra dziakujem.

**T. S.:** Vieršy słabyja. Radzim bolš čytać biełaruskich knižak i paznać dobra biełaruskuju hramatu— tady budzie ŭsio lepš udavacca. Karespandencyi achvotna vykarystajem.

**A. Lisicy:** Što možam, vysyłajem, i ciešymsia, što biareciesia za bieł. pracu.

**Н. Жальбе:** Вершы атрымалі і ў меру магчымасьцяў будзем друкаваць. За добрыя словы падзяка!

**Г. Новік:** Вершы атрымалі. Шмат з іх зусім слабыя і да друку не падходзяць, а некаторыя паправіўшы будзем друкаваць. Радзім больш старанна апрацоўваць іх і як найбольш чытаць паэзію.

**Б. Сокалу, М. Засіму, Б. Добрыяну, Я. Антановічу, М. Галясевічу, А. Багданчуку:** „Шлях Моладзі“ праз увесь час высылаецца Вам акуратна. Дзеля таго-ж, што да Вас ён незаўсёды даходзіць, падалі мы на Вашыя пошты скаргу ў Дырэкцыю Поштаў у Вільні.

**А. Жуку:** Вершы атрымалі, дзякуем, надрукуем.

**М. Вольнаму:** Высылаем паўторна і чакаем на абяцанае. Прывітаньне!

**М. Г—чу:** Карэспандэнцыю друкуем. „Шл. Мол.“ высылаецца акуратна.

**М. Л.:** Верш да друку не падходзіць. Просім пісаць карэспандэнцыі з жыцьця ў Вашай старонцы. За добрыя словы шчырая падзяка.

**А. Мілюцю:** Вершы атрымалі, ахвотна будзем карыстаць. Прывітаньне!

**А. Сучку:** Матарыялы атрымалі. У меру магчымасьці будзем друкаваць. Бракуючыя нумары „Шляху“ высылаем паўторна.

**Я. Самойле:** Зьменшаная цана на кніжкі даецца толькі тады, калі выпісваеце цэлы камплект паданы ў беларускіх календарох.




*„Шлях Моладзі“ друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Wydawca: „Biełpres“. Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.